Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!



# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады (г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3). Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.

VI-ы ГО ВЫДАНЬНЯ

№ 26 (100) | 29 сьнежня 1930 г. | № 26 (100)

## ЗЬМЕСТ

По ўзгадненьні з НКЮ і НКУС
зацьвярджаю.
Нам. Нар. Кам. Фінансаў БССР **Л. Бунін.**
22 кастрычніка 1930 г.

# Пастанова Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР.

## Паст. 208. Правілы пра ўжываньне пастановы ЦВК і СНК СССР за 28/V-1927 г. пра парадак скарыстаньня канфіскаванай, адмерлай і безгаспадарнай маемасьці.

Правілы выданы па ўзгадненьні з НКЮ і НКУС БССР, на падставе арт. 12 пастановы ЦВК і СНК СССР за 28/V-1927 г. (З. З. СССР 1927 г. № 32, арт. 323) і ў разьвіцьцё правіл НКФ СССР за 31/XII-1928 г. (Сыст. зб. пастаноў, абежнікаў і інструкцый НКФ СССР 1929 г., т. III, арт. 531),—узамен правіл НКФ БССР за 25/IX-1928 г. і абежніку НКФ, НКЮ і НКУС БССР за 20/XI-1928 г. № 32305-3.

### I. Ахова канфіскаванай, адмерлай і безгаспадарнай маемасьці.

1. Судовыя і адміністрацыйныя органы, выносячы прысуды або пастановы аб канфіскацыі маемасьці, павінны ўжываць захады для забясьпечаньня супроць утойваньня тае маемасьці, якая павінна быць канфіскавана. Аб канфіскацыі немуніцыпалізаваных і дэмуніцыпалізаваных жылых будынкаў, а таксама правоў на забудоўку, органы, якія вынесьлі прысуд альбо пастанову аб канфіскацыі, паведамляюць натарыяльныя канторы для накладаньня арышту на гэтую маемасьць.

2. Разам з ужыцьцём захадаў для аховы канфіскаванай маемасьці судовыя і адміністрацыйныя органы паведамляюць фінансавыя органы альбо іншыя ўстановы, у залежнасьці ад таго, каму, паводле арт. арт. 5-18 гэтых правіл, трэба перадаць маемасьць, аб прысылцы прадстаўніка для прыёму маемасьці.

3. Фінансавыя органы пры атрыманьні вестак аб спадчыне альбо аб безгаспадарнай маемасьці павінны безадкладна ўзьнімаць перад народным судзьдзёй пытаньне аб ужыцьці захадаў для аховы маемасьці.

4. Народны судзьдзя пасьля атрыманьня вестак аб спадчыннай маемасьці альбо хадайніцтва фінансавых органаў аб прызнаньні тае ці іншае маемасьці безгаспадарнай, ужывае захады для аховы гэтай маемасьці да часу прызнаньня народным судом гэтай маемасьці адмерлай альбо безгаспадарнай, якая пераходзіць ва ўласнасьць дзяржавы, і перадачы яе фінансавым органам альбо іншым установам у адпаведнасьці з арт. арт. 5-18 гэтых Правіл.

### II. Парадак накіраваньня канфіскаванай, адмерлай і безгаспадарнай маемасьці.

5. Канфіскаваная па пастанове суда альбо ў адміністрацыйным парадку адмерлая і безгаспадарная маемасьць безадкладна пасьля канфіскацыі, прызнаньня маемасьці адмерлай альбо пасьля ўстанаўленьня яе безгаспадарнасьці, перадаецца адпаведнымі органамі фінансавым аддзелам, за выключэньнем:

а) маемасьці, канфіскаванай на падставе пастаноў мытных устаноў;

б) вайсковай маемасьці: рэчаў узброеньня і тэхнічнага забясьпечаньня РСЧА;



в) драўніны і лясных матарыялаў, якія адбіраюцца пры самавольных парубках;

г) маемасьці сялянскіх двароў;

д) рэчаў спэцыяльнага прызначэньня, скарыстаньне якіх адносіцца да выключнага веданьня Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забясьпечаньня;

е) гарадзкіх будынкаў, прыгодных для скарыстаньня па іх простаму прызначэньню;

ж) маемасьці, якая хутка псуецца;

з) каляровых мэталяў і меднай манэты царскага чакану;

і) шкоднай у палітычных і эканамічных адносінах літаратуры;

к) спэцыяльных прыладаў злачынстваў;

л) канфіскаваных з прычыны выданьня без дазволу падручнікаў;

м) нявытрабаваных ад органаў НКПіТ паштовых адпраўленьняў і канфіскаваных гэтымі органамі недазволеных укладаньняў;

н) нявытрабаваных ад чыгунак і параходзтваў багажу і цяжараў.

**III. Парадак рэалізацыі і накіраваньня канфіскаванай, адмерлай і безгаспадарнай маемасьці, якая не перадаецца фінорганам.**

6. Рэалізацыя і разьмеркаваньне маемасьці, канфіскаванай на падставе мытных устаноў, вытвараецца адпаведнымі мытнымі ўстановамі паводле мытнага статуту і адпаведных інструкцый НКГ і НКФ СССР.

7. Канфіскаваная, адмерлая і безгаспадарная вайсковая маемасьць паказаная ў пераліку, што дадаецца да гэтых правіл, органамі, якія канфіскавалі яе альбо прызналі адмерлаю ці безгаспадарнаю, перадаецца па асобным сьпісу і ацэнцы дармова кіраўніцтву забясьпечаньня вайсковай акругі або ўправе пагранічнай аховы войск АДПУ.

Увага. Разьмеркаваньне маемасьці паміж органамі вайсковага ведамства і АДПУ, а таксама ацэнка яе вытвараецца ў парадку, устаноўленым Наркамваенморам па ўзгадненьні з АДПУ.

8. Драўніна і лясныя матарыялы, адабраныя пры самавольных парубках, паступаюць у лясьніцтва, на тэрыторыі якога зроблена парубка. Паказаныя лясныя матарыялы рэалізуюцца ў парадку інструкцыі НКЗ для водпуску лесу з дач.

9. Маемасьць сялянскіх двароў перадаецца органамі, якія яе канфіскавалі, прызналі адмерлаю альбо безгаспадарнаю, дармова сялянскім таварыствам узаемадапамогі па месцу знаходжаньня маемасьці.

Пры перадачы маемасьці складаецца сьпіс яе ў 3-х экзэмплярах, з якіх адзін застаецца ў органах, што перадаюць маемасьць, другі — у таварыстве, якое прымае яе, і трэці дасылаецца ў фінаддзел.

10. У выпадку ўстанаўленьня НКФ пераліку рэчаў спэцыяльнага прызначэньня, скарыстаньне якіх адносіцца выключна да ведама НК Сацыяльнага Забясьпечаньня, гэтыя рэчы павінны перадавацца органамі, якія іх канфіскавалі, прызналі адмерлымі альбо безгаспадарнымі, дармова, але па асобнай ацэнцы, адпаведным органам сацыяльнага забясьпечаньня па месцу знаходжаньня маемасьці.

11. Гарадзкія будынкі (у гарадох і гарадзкіх паселішчах), якія могуць быць скарыстаны па простаму іх прызначэньню, органамі,

што канфіскавалі гэтыя будынкі, прызналі іх адмерлымі альбо безгаспадарнымі, перадаюцца дармова мясцовым органам камунальнай гаспадаркі.

Увага. Гарадзкія будынкі ня лічацца годнымі для скарыстаньня па простаму прызначэньню, калі іх нельга адрамантаваць, і яны могуць быць прададзены толькі на знос.

Для прызнаньня будынкаў годнымі або нягоднымі для скарыстаньня по простаму прызначэньню робіцца агляд будынкаў экспэртамі ў прысутнасьці прадстаўніка фінаддзелу, аб чым складаецца акт.

Пры перадачы будынкаў камунальным органам складаецца сьпіс іх у 3-х экзэмплярах, з якіх адзін застаецца ў органах, што перадаюць будынкі, другі—у камунальным органе, а трэці дасылаецца ў фінаддзел.

12. Канфіскаваная, адмерлая і безгаспадарная маемасьць, якая хутка псуецца, рэалізуецца органамі, якія канфіскавалі маемасьць або прызналі яе адмерлаю альбо безгаспадарнаю, праз адпаведныя дзяржаўныя альбо каперацыйныя прадпрыемствы па ўстаноўленых цэнах, якія існуюць у месцы ў час рэалізацыі маемасьці.

Пры ацэнцы паказанай маемасьці і рэалізацыі яе, павінен быць прадстаўнік мясцовага фінаддзелу.

Адпаведны акт складаецца ў 3-х экзэмплярах, з якіх адзін застаецца ва ўстанове, якая рабіла рэалізацыю, другі—у пакупніка, а трэці дасылаецца ў фінаддзел.

Пры немагчымасьці рэалізаваць маемасьць паказаным спосабам, яна можа быць рэалізавана ўсімі іншымі законнымі спосабамі ў найхутчэйшы тэрмін.

Калі, ня гледзячы на ўсе ўжытыя захады, рэчы сапсуюцца і страцяць усякую каштоўнасьць, то яны павінны зьнішчацца, аб чым складаецца акт.

13. Каляровыя мэталі, а таксама медная манэта царскага чакану накіроўваюцца органамі, якія іх канфіскавалі, паводле спэцыяльна ўстаноўленых на гэта правіл.

14. Шкодная ў палітычных і эканамічных адносінах літаратура перадаецца органамі, якія яе канфіскавалі, дармова ў мясцовыя органы АДПУ.

15. Спэцыяльныя прылады злачынства перадаюцца дармова зацікаўленым установам, а іменна:

а) прылады злачынстваў, якія маюць інтарэс для музэяў, перадаюцца ў інстытут судовай экспэртызы пры НКЮ БССР;

б) прылады для падробкі грашовых знакаў і папяровых каштоўнасьцяй перасылаюцца ў Маскву ва Управу вырабу дзяржаўных знакаў (Дзяржзнак);

в) прылады падробкі манэт і фальшывыя прабірныя клеймы адсылаюцца ў Ленінград у Манэтны Двор;

г) фальшывыя мытныя кляймільныя машынкі перадаюцца ў мясцовыя органы АДПУ.

16. Выдадзеныя без належнага дазволу і таму канфіскаваныя падручнікі, якія могуць быць скарыстаны ў навучальных установах, перадаюцца па асобнай ацэнцы, але дармова, органамі, якія іх канфіскавалі, органам НК Асьветы БССР.

Ацэнка гэтых падручнікаў робіцца спэцыялістамі, якія запрашаюцца ад органаў НК Асьветы.

Аб ацэнцы і перадачы складаецца акт у 3-х экзэмплярах.

17. Нявытрабаваныя ад органаў НКПіТ рэчы, вынутыя з паштовых адпраўленьняў, і канфіскаваныя недазволеныя ўкладаньні рэалізуюцца органамі НКПіТ асобным парадкам, прадугледжаным пастановаю СНК СССР за 29 V-1928 г. (З. З. СССР 1928 г. № 35, арт. 323) і інструкцыяй НКФ СССР за 27/VII-1928 г. па яе ўжываньні.

18. Нявытрабаваныя ад чыгунак багаж і цяжары прадаюцца органамі НКШ у парадку адпаведных артыкулаў чыгуначнага статуту.

Багаж і марскія цяжары, нявытрабаваныя ад мараходных прадпрыемстваў, з дазволу народнага суда, калі іншае не прадугледжана фрахтоўшчыкамі, прадаюцца органамі марскога транспарту ў парадку правіл гандлёвага мараплаваньня СССР.

Нявытрабаваныя багаж і цяжары, якія перавозяцца па унутраных водных шляхох, прадаюцца ў парадку адпаведных артыкулаў правіл перавозкі пасажыраў багажу і цяжараў дзяржпараходзтвамі па ўнутраных водных шляхох.

## IV. Парадак перадачы фінансавым органам канфіскаванай, адмерлай і безгаспадарнай маемасьці і яе ацэнка.

### А. Перадача маемасьці.

19. Канфіскаваная, адмерлая і безгаспадарная маемасьць, за выключэньнем пералічанай у арт. 5 гэтых правіл, перадаецца фінансавым аддзелам паводле акту, да якога абавязкова дадаюцца:

а) падрабязны сьпіс маемасьці з яе ацэнкаю, калі апошняя была ўжо зроблена;

б) расьпіска ў прыёме на захаваньне маемасьці асобай, якой яна была здадзена да моманту перадачы маемасьці фінаддзелу.

Акт складаецца ў 2-х экзэмплярах і падпісваецца тым, хто здае, і тым, хто прымае маемасьць; адзін экзэмпляр акту застаецца ў таго, хто здае, другі перадаецца фінаддзелу.

20. Фінансавым органам павінны таксама перадавацца каштоўнасьці (каштоўныя каменьні, пэрлы, дарэвалюцыйныя залатыя і срэбныя манэты, дарагія мэталі: золата, срэбра, плятына і мэталі плятынавай групы, у зьлітках, вырабах іломе, а таксама замежная валюта), якія выяўлены тою ці іншаю асобаю закапанымі ў зямлі альбо іншым спосабам захаваныя (у лесе, у полі, у студні, у сакрэтніку пакінутага дому і г. д.), пры чым уласьнік гэтых каштоўнасьцяй альбо невядомы альбо паводле закону страціў на іх правы.

Увага. Уласьнік каштоўнасьцяй у гэтым выпадку лічыцца: а) невядомым, калі няма ніякіх паказаньняў на тое, што яны належаць якой-небудзь пэўнай асобе, і б) страціўшым права на маемасьць, калі ён зьбег за мяжу, альбо калі яго маемасьць канфіскавана паводле прысуду суда або іншых органаў.

21. Асобам, якія перададуць фінансавым органам паказаныя закапаныя ў зямлі альбо іншым спосабам захаваныя каштоўнасьці, не пазьней тыднёвага тэрміну пасьля перадачы каштоўнасьцяй выдаецца ўзнагарода ў разьмеры 25 проц. кошту перададзеных каштоўнасьцяй.

У выпадку-ж няздачы фінансавым органам выяўленых захаванымі каштоўнасьцяй вінаватыя прыцягваюцца да крымінальнай адказнасьці.

22. Пасьля прыёму маемасьці фінансавы аддзел абавязан безадкладна ўжыць захады да яе аховы, пры чым:

а) вырабы з дарагіх мэталяў, каштоўных каменьняў і пэрлаў, залатая і срэбная манэта царскага чакану, каштоўныя мэталі ў

зьлітках (золата, срэбра, плятына і мэталі плятынавай групы) і замежная валюта павінны захоўвацца ў запячатаным фінансавымі органамі выглядзе, ва ўстановах Дзяржбанку альбо райкасах;

б) іншая маемасьць можа хавацца або ў памяшканьнях спэцыяльна занятых (калі будзе ў гэтым патрэба) або на месцы яе знаходжаньня да моманту перадачы пры ўмове апячатаньня маемасьці і здачы на хаваньне пад адказнасьць прызначаных для гэтай мэты асоб.

23. Фінансавыя аддзелы вядуць асобны падлік маемасьці, якая пераходзіць ва ўласнасьць дзяржавы (арт. 70).

**Б. Ацэнка маемасьці.**

24. Пасьля таго, як ужыты захады да аховы маемасьці, фінансавыя аддзелы павінны зрабіць яе ацэнку, кіруючыся арт. арт. 25—32 гэтых правіл.

25. Кошт будынкаў вызначаецца па страхавой ацэнцы, а калі яе няма, то па ацэнцы для абкладаньня падаткамі.

26. Тавары, вырабы, сыравіна, рэчы абсталяваньня і інвэнтару гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў ацэньваюцца паводле гандлёвых кніг, калі яны будуць прызнаны фінансавымі органамі правільнымі; у іншым выпадку—паводле афіцыйных справачных гуртовых цэн органаў НК Гандлю і статыстычнага бюро, а пры адсутнасьці іх—у экспэртным парадку.

27. Кошт рэчаў хатняга абсталяваньня і ўжываньня вызначаецца альбо па страхавой ацэнцы альбо па сярэдніх рыначных цэнах, у залежнасьці ад таго, якая ацэнка будзе вышэй.

28. Кошт правоў паводле дагавораў з дзяржаўнымі органамі і кааперацыйнымі арганізацыямі, не скарыстаных асобаю, маемасьць якой канфіскавана, вызначаецца сумай выплат, што належаць гэтай асобе на дзень вынясеньня прысуду альбо пастановы аб канфіскацыі, паводле даведкі адпаведнай установы або арганізацыі.

29. Ацэнка вырабаў з дарагіх мэталяў, каштоўных каменьняў, а таксама рэчаў старажытнасьці і мастацтва (напрыклад: малюнкі, гравюры, статуі, вазы і інш. вырабы з бронзы, парцэляны і слановай косьці, старадаўнія рукапісы, кнігі, вышыўкі, паштовыя маркі, мэдалі і г. д.) злучаецца з экспэртызай гэтых рэчаў для вылучэньня з іх рэчаў старажытнасьці і мастацтва, якія падлягаюць спэцыяльнаму падліку (арт. 39).

30. Для вылучэньня апошніх фінансавымі аддзеламі запрашаюцца экспэрты з мясцовых музэяў, а калі іх на месцы няма, фінансавы аддзел паведамляе бліжэйшы музэй з дасылкай сьпісаў усіх рэчаў, якія могуць мець высокамастацкае або антыкварнае значэньне.

Аб экспэртызе складаецца акт, які сьведчыцца подпісам экспэрта.

31. Для экспэртызы-ацэнкі вырабаў з дарагіх мэталяў, каштоўных каменьняў і пэрлаў запрашаецца экспэрт-ацэншчык з асоб, паказаных прабірным наглядам альбо спэцыяліст, вылучаны камунальным аддзелам.

Гэты экспэрт-ацэншчык складае падрабязны акт ацэнкі кожнай рэчы або групы рэчаў аднае назвы або аднародных, з адзначэньнем назвы рэчаў, мэтрычнае вагі (ў грамах), роду і іншых індывідуальных адзнак, бяручы пад увагу афіцыйны біржавы курс цэн на каштоўныя мэталі і кан'юнктуру рынку.

*Увага.* Экспэртыза-ацэнка пералічаных у гэтым артыкуле рэчаў мае папярэдні характар; канчатковая ацэнка робіцца НКФ СССР.

32. Ацэнка і экспэртыза рэчаў, пералічаных у арт. 29, даюцца на зацьверджаньне загадчыку фінансавага аддзелу. У выпадку яго нязгоды са зробленай ацэнкай альбо экспэртызай ім назначаецца паўторная ацэнка альбо экспэртыза пры новым складзе экспэртаў-ацэншчыкаў.

## V. Парадак рэалізацыі атрыманай фінансавымі органамі канфіскаванай, адмерлай і безгаспадарнай маемасьці.

### А. Грашовыя сумы.

33. Грошы, якія ўваходзяць у склад канфіскаванай, адмерлай або безгаспадарнай маемасьці, за выключэньнем канфіскаваных мытнымі органамі і органамі НКШ, падлягаюць здачы ва ўстановы Дзяржбанку.

### Б. Вырабы з дарагіх мэталяў, каштоўных каменьняў і пэрлаў, залатая і срэбная манэта царскага чакану, дарагія мэталі ў зьлітках, замежная валюта і фондавыя каштоўнасьці.

34. Вырабы з дарагіх мэталяў і з каштоўных каменьняў і пэрлаў, за выключэньнем тых, што прызнаны экспэртызай падлягаючымі спэцыяльнаму падліку (арт. арт. 29 і 39), а таксама замежныя каштоўныя паперы на ўсякую суму здаюцца фінансавымі аддзеламі ва ўстановы Дзяржбанку, якія перасылаюць іх ў праўленьне Дзяржбанку (замежны аддзел).

Замежная валюта ў манэце, банкнотах, чэках і каштоўных паперах адсылаецца ўстановамі Дзяржбанку ў праўленьне Дзяржбанку для залічэньня на бягучы рахунак НКФ № 165 у замежным аддзеле Дзяржбанку.

Выпушчаныя да Кастрычнікавай Рэвалюцыі і потымануляваныя расійскія каштоўныя паперы накіроўваюцца непасрэдна фінансавым аддзелам у Аддзел валютнай палітыкі і міжнародных разрахункаў НКФ СССР.

Прыём і высылка паказаных у гэтым артыкуле каштоўнасьцяў робіцца па заграфным рахунку пераходных каштоўнасьцяў.

35. Залатыя і срэбныя манэты царскага чакану, а таксама дарагія мэталі ў шліху, зьлітках і ломе і фондавыя каштоўнасьці СССР перадаюцца фінансавымі аддзеламі ў мясцовыя ўстановы Дзяржбанку з аплатай апошнімі па ўстаноўленай Дзяржбанкам пакупной цане на гэтыя каштоўнасьці.

36. Пры перасылцы ў цэнтр канфіскаваных, адмерлых і безгаспадарных валютных і фондавых каштоўнасьцяй дадаецца дакладны сьпіс, акт папярэдняй ацэнкі, а таксама даюцца зьвесткі, ад якіх органаў і на якіх падставах гэтыя каштоўнасьці паступілі, пры чым у адносінах канфіскаванай маемасьці—таксама зьвесткі, паводле пастаноў якіх органаў (Саюзу ССР або саюзнай рэспублікі) зроблена канфіскацыя.

На ўпакоўцы тых каштоўнасьцяй, якія былі знойдзены захаванымі і перададзены фінансавым органам, робіцца надпіс: „Каштоўнасьці з выплатай узнагароды“.

37. Работа па прыёму каштоўнасьцяй, выяўленых захаванымі ў зямлі або іншым спосабам і перададзеных фінансавым органам, павінна праводзіцца без усякай затрымкі, каб праз тыдзень пасьля перадачы праўленьне Дзяржбанку магло паведаміць аб суме канчатковай расцэнкі іх для выдачы адпаведнай узнагароды.

38. Пасьля атрыманьня паказаных рэчаў і зьвестак у цэнтры робіцца канчатковая іх ацэнка.

**В. Рэчы старажытнасьці і мастацтва, якія падлягаюць спэцыяльнаму падліку.**

39. Рэчы, прызнаныя экспэртызай падлягаючымі спэцыяльнаму падліку, як рэчы старажытнасьці і мастацтва (арт. арт. 29—30), у тым ліку старажытныя і высокамастацкія вырабы з дарагіх мэталяў, каштоўных каменьняў і пэрлаў, перадаюцца фінансавымі аддзеламі дармова музэйным і навуковым установам БССР паводле паказаньняў органаў НК Асьветы, для чаго фінансавы аддзел кожны раз паведамляе органы НК Асьветы з просьбай прызначыць адпаведны музэй або ўстанову.

Паказаныя рэчы прымаюцца ад фінансавых аддзелаў па сьпісах, якія складаюцца ў 2-х экзэмплярах: адзін застаецца ў фінансавым аддзеле, а другі перадаецца ўстанове, што прымае рэчы.

40. Архіўныя матарыялы, якія маюць гістарычнае або гістарычна-рэвалюцыйнае значэньне, перадаюцца дармова Цэнтральнаму Архіву БССР.

У выпадках выяўленьня паказаных матарыялаў, фінансавы аддзел паведамляе Цэнтральны Архіў БССР.

Экспэрт, які будзе прызначаны Цэнтрархівам, складае адпаведны акт у 2-х экзэмплярах, адзін з якіх застаецца ў фінансавым аддзеле, а другі перадаецца Цэнтрархіву.

**Г. Рэчы, якія вылучаны з прыватнага звароту.**

41. Вылучаныя з прыватнага звароту рэчы, якія знаходзіліся ў складзе канфіскаванай, адмерлай і безгаспадарнай маемасьці, паказаныя ў далучаных пераліках (дадаткі №№ 2 і 3), перадаюцца дзяржаўным установам і прадпрыемствам, якія могуць скарыстаць маемасьць, за плату, паводле адпаведнай ацэнкі (арт. арт. 24—28).

42. Канфіскаваны хлеба-бульбяны або патачны сьпірт здаецца ў бліжэйшыя сьпіртагарэлачныя заводы цэнтрасьпірту, пры чым рэктыфікаваны сьпірт моцнасьцю ня ніжэй 96 гр., які адпавядае ўстаноўленаму для рэктыфікаванага сьпірту стандарту, прымаецца як рэктыфікаваны сьпірт; рэктыфікаваны сьпірт, які не адпавядае ўстаноўленаму стандарту, прымаецца як сыры сьпірт.

Разьлікі за канфіскаваны рэктыфікаваны сьпірт моцнасьцю ня ніжэй 96° і сыры сьпірт моцнасьцю ня ніжэй 96° робяцца цэнтрасьпіртам па сярэдня-загатоўчых цэнах для рэктыфікаванага і сырога сьпірту за папярэдні аперацыйны год са скідкай 10 проц., а разьлік за сыры сьпірт моцнасьцю ніжэй 90°—са скідкай 50% з сярэдняй загатоўчай цаны за папярэдні аперацыйны год для сырога сьпірту.

Моцныя напіткі (лікёры і каньяк), у якіх алкаголю больш як 60°, здаюцца органам Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя па цэнах, узгодненых з апошнім; у выпадку адмаўленьня паказаных органаў ад прыёму гэтых напіткаў, яны, калі зроблены з хлеба-бульбянага і патачнага сьпірту, здаюцца ў бліжэйшыя сьпіртагарэлачныя заводы цэнтрасьпірту з выплатай, паводле колькасьці алкаголю ў іх, па цане, устаноўленай для прыёмкі сырога сьпірту моцнасьцю ніжэй 90°.

43. Пасьля ацэнкі фінансавыя аддзелы пісьмова паведамляюць адпаведныя ўстановы і прадпрыемствы аб прысылцы сваіх прадстаўнікоў для прыёму маемасьці, з паказаньнем 1) месцазнаходжаньня маемасьці, 2) дакладнага яе зьместу з паказаньнем якасьці, 3) колькасьці па паасобных відах і 4) ацэнкі.

44. Рэчы, вылучаныя з прыватнага звароту, пры перадачы прадпрыемствам, якія знаходзяцца на гаспадарчым разрахунку, выдаюцца ім толькі пасьля поўнага разьліку.

У тых выпадках, калі вынятыя з прыватнага звароту рэчы перадаюцца ўстановам, якія знаходзяцца на дзяржбюджэце, зварот кошту гэтых рэчаў павінен рабіцца за лік адпаведных крэдытаў, што адпускаюцца паказаным установам на набыцьцё такіх матарыялаў, шляхам пералічэньня з гэтых крэдытаў адпаведных сум у § 42 арт. 3 даходнага каштарысу ведамства, паводле пастановы якога была зроблена канфіскацыя.

Пры недастатковасьці каштарысных асыгнаваньняў выпрашваюцца ва ўстаноўленым парадку дадатковыя крэдыты.

**Д. Рэчы спэцыяльнага прызначэньня, скарыстаньне якіх датычыць выключнага веданьня якога-небудзь народнага камісарыяту.**

45. Рэчы спэцыяльнага прызначэньня, скарыстаньне якіх адносіцца выключна да ведама аднаго якога-небудзь народнага камісарыяту, адзначаныя ў далучаных пераліках (дадаткі №№ 3 і 4), перадаюцца органам адпаведнага наркамату за плату, паводле асобнай ацэнкі (арт. арт. 24—28).

46. Установы, якія атрымліваюць гэтыя рэчы, у працягу 7 дзён ад дня атрыманьня паведамленьня, павінны аформіць разьлік за маемасьць з выкананьнем арт. 44 гэтых правіл і прыняць яе.

У выпадку адмаўленьня устаноў ад прыёму паказанай маемасьці, а таксама ў выпадку неафармленьня ў тэрмін разьліку, маемасьць рэалізуецца на агульных падставах (арт. 49).

**Е. Хлебныя прадукты і некаторыя інш. рэчы.**

47. У адпаведнасьці з артыкулам 345-б Грам. Працэс. Код. БССР (у рэдакцыі пастановы ЦВК і СНК БССР за 27/IV-1930 г.), хлебныя прадукты, калі яны будуць у складзе канфіскаванай, адмерлай або безгаспадарнай маемасьці, перадаюцца фінансавымі органамі за гатоўку дзяржаўным і каперацыйным хлебазагатоўчым арганізацыям па загатоўчай цане, якая існуе на дзень перадачы ў гэтай мясцовасьці.

Насеньне перадаецца на такіх самых умовах калгасам альбо камітэтам сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

48. У адпаведнасьці з арт. 345-в таго самага Кодэксу, тавары, пералічаныя ў асобным сьпісе, складзеным Народным Камісарыятам Гандлю, перадаюцца за гатоўку адпаведным каперацыйным арганізацыям па цэнах, устаноўленых НК Гандлю.

**Ж. Іншая маемасьць.**

49. Уся іншая канфіскаваная, адмерлая і безгаспадарная маемасьць, якая паступіла ў фінансавыя аддзелы, не паказаная ў артыкулах 34, 35, 39, 40, 41, 42, 45, 47 і 48 гэтых правіл, падлягае продажу з публічных таргоў на агульных падставах.

50. Продаж з публічных таргоў канфіскаванай, адмерлай і безгаспадарнай маемасьці, што паступіла ў фінансавы аддзел, можа быць зроблен, па пагляду фінансавага аддзелу, альбо непасрэдна ім самім альбо праз лёмбарды і акцыённыя салі ў парадку, устаноўленым пастановай СНК БССР 5/XII-1927 г. пра парадак публічных таргоў на продаж маемасьці рэспубліканскага і мясцовага значэньня (З. З. БССР 1927 г. № 44, арт. 238), з захаваньнем умоў, паказаных у арт.арт.51--56 гэтых правіл.

51. У таргох ня могуць прымаць удзел асобы, якія знаходзяцца на службе ў органах, якія робяць продаж маемасьці, а таксама блізкая радня гэтых асоб (жонка, дзеці, унукі, браты, сёстры).

52. Калі цана, з якой пачынаюцца таргі, не перавышае 500 руб., то абвяшчэньне аб таргох зьмяшчаецца адзін раз у мясцовым органе

друку; пры ацэнцы звыш 500 руб. абвяшчэньне аб продажу зьмяшчаецца адзін раз у мясцовым органе друку і адзін раз у газэце „Савецкая Беларусь“.

Увага. Пры нязначнай каштоўнасьці маемасьці публікацыя аб таргох у газэтах зьяўляецца неабавязковаю і замяняецца падрабязным абвяшчэньнем, якое вывешваецца ў фінансавым аддзеле і іншых мясцох, з паказаньнем ацэнкі маемасьці.

53. Лістовая і крышаная табака (жоўтая і махорка), байхавы (чорны і зялёны) і плітачны чай, вінаграднае віно і гарэлачныя вырабы, а таксама парфумовыя і касмэтычныя вырабы ва ўпакоўках, якія не дапушчаюцца да звароту ў гандлі, могуць быць прададзены з таргоў толькі адпаведнымі прадпрыемствамі, якія выробляюць альбо перарабляюць гэтыя рэчы.

54. Калі з таргоў прадаюцца тавары і рэчы, якія падлягаюць кляйменьню, яны выдаюцца пакупніку заклейменымі, для чаго яны папярэдне даюцца ў прабірную ўстанову.

56. Калі будуць прызначаны другія таргі, то ў мэтах лепшай рэалізацыі маемасьці іх можна перанесьці ў другое месца; таксама калі гэта будзе мэтазгодна, для другіх таргоў можна панізіць ацэнку, але ня больш як на 20 проц. першапачатковай ацэнкі.

55. Маемасьць, не прададзеная і на другіх таргох, рэалізуецца іншымі спосабамі, пры чым, у выпадку поўнай немагчымасьці продажу па ацэнцы, з дазволу загадчыка фінансавага аддзелу, яна можа быць прададзена і ніжэй ацэнкі.

### VI. Парадак аплаты выдаткаў па рэалізацыі маемасьці.

57. Выдаткі па рэалізацыі канфіскаванай, адмерлай або безгаспадарнай маемасьці: па перавозцы, перасылцы, запакоўцы, захаваньні, аплаце экспэртаў, публікацыі аб таргох і г. д., пакрываюцца з сум, атрыманых ад продажу маемасьці альбо ад перадачы яе дзяржаўным установам і прадпрыемствам за плату па ацэнцы. У тых выпадках, калі рэчы перадаюцца дармова (арт. арт. 7, 9, 10, 11, 13, 14, 15, 39 і 40), гэтыя выдаткі аплачваюцца з крэдытаў установаў, якія атрымалі маемасьць.

Увага 1. Службовым асобам пры правядзеньні таргоў непасрэдна фіналдзеламі ніякая спэцыяльная ўзнагарода ня выплачваецца.

Увага 2. Упакоўка, перавозка і хаваньне рэчаў пасьля сканчэньня таргоў альбо афармленьня іх перадачы дзяржаўным установам і прадпрыемствам робяцца сродкамі і за лік пакупнікоў і тых, што атрымалі рэчы.

58. Да правядзеньня разьлікаў па рэалізацыі маемасьці адзначаныя выдаткі папярэдне магчыма правесьці за лік крэдытаў на гаспадарчыя выдаткі з наступным зваротам з сум, атрыманых ад рэалізацыі адпаведнай маемасьці, а пры дармовай перадачы маемасьці— за лік крэдытаў органаў, якія яе атрымалі. Разьмер пазычаньня не павінен неравышаць 5 проц. ацэнкі маемасьці.

### VII. Парадак разьмеркаваньня грашовых сум і каштоўнасьцяй, якія ўваходзяць у склад канфіскаванай, адмерлай і безгаспадарнай маемасьці і сум, атрыманых ад рэалізацыі такой маемасьці.

59. Грашовыя сумы, канфіскаваныя на падставе пастаноў мытных органаў, і сумы, атрыманыя ад рэалізацыі канфіскаваных кан-

трабандных тавараў, разьмяркоўваюцца ў парадку, устаноўленым адпаведнаю пастановаю СНК СССР (З.З. СССР 1930 г. № 6, арт. 68).

60. Сумы, атрыманыя ад продажу нявытрабаваных ад органаў НКПіТ паштовых адпраўленьняў і ад продажу недазволеных укладаньняў, за вылікам паштовых і іншых збораў, залічаюцца ў даход казны парадкам, прадугледжаным асобнай інструкцыяй НКФ СССР за 27/VII—1928 г.

61. Сумы, атрыманыя ад продажу нявытрабаваных ад чыгунак і параходзтваў багажу і цяжараў, накіроўваюцца ў парадку, паказаным у адпаведных арт. арт. чыгуначнага статуту, і ў парадку правіл гандлёвага мараплаваньня.

62. Сумы, атрыманыя ад продажу каляровых мэталяў і мэднай манэты царскага чакану накіроўваюцца паводле спэцыяльна ўстаноўленых на гэта правіл.

63. Сумы, атрыманыя ад продажу рэчаў і тавараў, канфіскаваных за парушэньне акцызных правіл, разьмяркоўваюцца ў парадку, паказаным у пастанове ЦВК і СПА СССР за 4/X—1929 г. пра спаганьні за парушэньне акцызных правіл (З. З. СССР 1929 г. № 66, арт. 615) з захаваньнем умоў, паказаных у § 55 гэтых правіл.

64. Атрыманыя ад продажу канфіскаванага лесу і лясных матарыялаў сумы разьмяркоўваюцца паводле пастановы СНК БССР за 28/VII—1929 г. пра ўстанаўленьне прэм'яваньня лясной варты і міліцыі за выяўленьне самавольных парубшчыкаў і самавольна высечанага лесу (З.З. БССР 1929 г. № 28, арт. 169) і выдадзенай на падставе гэтай пастановы інструкцыі НКЗ, НКУС і НКФ БССР за 10/II—1930 г. (Бюл. СНК БССР 1930 г. № 4, паст. 8).

65. Грошы, атрыманыя ад продажу маемасьці, а таксама за маемасьць, перададзеную установам і прадпрыемствам, разьмяркоўваюцца такім чынам:

а) перш за ўсё пакрываюцца выдаткі па ахове, дастаўцы і продажу маемасьці;

б) потым пагашаецца запазычанасьць, што ляжыць на канфіскаванай маемасьці, а таксама даўгі і абавязкі былых уласьнікаў яе ў парадку, прадугледжаным у арт. 311 Грам. Працэс. Код. БССР;

в) сумы, якія засталіся пасьля пакрыцьця паказаных вышэй уплат, паступаюць ва ўстановы Дзяржбанку для залічэньня ў даход скарбу.

Увага 1. Пры продажу падакцызных рэчаў 50 проц. атрыманых сум ідзе на ўзнагароду выяўнікоў і затрымальнікаў гэтых рэчаў; калі сума не перавышае аднаго рубля, яна ідзе ў даход скарбу поўнасьцю.

Увага 2. У выпадку, калі фінансавым органам былі перададзены закапаныя ў зямлі альбо іншым спосабам захаваныя каштоўнасьці, 25 проц. вартасьці гэтых каштоўнасьцяй выдаецца, як узнагарода, тым асобам, якія перадалі іх, прычым узнагарода за каштоўнасьці, перадаваемыя мясцовай установе Дзяржбанку (замежная валюта і дарагія мэталі ў манэце, зьлітках іломе) выплачваецца безадкладна пасьля іх расцэнкі, а за каштоўнасьці, адсылаемыя ў праўленьне Дзяржбанку (вырабы з дарагіх мэталяў, каштоўныя каменьні і пэрлы), пасьля атрыманьня тэлеграфнага паведамленьня Дзяржбанку аб іх канчатковай расцэнцы, але не пазьней як праз тыдзень пасьля перадачы каштоўнасьцяй фінансавым органам.

У выпадках адлегласьці месца выяўленьня і здачы каштоўнасьцяй ад цэнтру дазваляецца, як выключэньне, авансавая

выплата ўзнагароды раней ўстанаўленьня канчатковай расцэнкі, якая адбываецца на месцы. Такая выплата дапушчаецца толькі пад асабістую адказнасьць загадчыка фінаддзелу альбо кіраўніка мясцовай установы Дзяржбанку, пры чым сума авансу, што выдаецца, не павінна быць больш 50 проц. мясцовай ацэнкі і ва ўсякім разе не павінна перавышаць 500 руб.

## VIII. Парадак залічэньня кошту каштоўнасьцяй, якія уваходзяць у склад канфіскаванай, адмерлай або безгаспадарнай маемасьці, а таксама сум, атрыманых пры рэалізацыі такой маемасьці.

66. Вартасьць валютных і фондавых каштоўнасьцяй, якія перасылаюцца ў праўленьне Дзяржбанку (арт. 34), за вылікам выдаткаў, зьвязаных з іх рэалізацыяй, пераводзяцца фінансаваму органу, ад якога каштоўнасьці атрыманы, і залічаюцца ў прыбытак скарбу па агульна-саюзнаму бюджэту альбо па бюджэту БССР па належнасьці, а іменна: а) вартасьць канфіскаваных каштоўнасьцяй, у залежнасьці ад таго, канфіскаваны гэтыя каштоўнасьці на падставе пастаноў органаў Саюзу ССР альбо БССР; б) вартасьць каштоўнасьцяй, якія ўваходзяць у склад безгаспадарнай маемасьці, па бюджэту БССР, калі каштоўнасьці былі выяўлены на яе тэрыторыі.

67. Вартасьць каштоўнасьцяй, якія паступаюць у мясцовыя ўстановы Дзяржбанку (арт. 35) залічваецца ў даход скарбу па бюджэту агульна-саюзнаму альбо рэспубліканскаму паводле тых самых адзнак, што паказаны ў папярэднім (66) артыкуле.

Увага. Установы Дзяржбанку затрымліваюць адпаведную суму на аднаўленьне крэдыту на пакрыцьцё выдаткаў па перасылцы каштоўнасьцяй, зробленных на падставе арт. арт. 57 і 58 гэтых правіл.

68. Залічэньне ў даход скарбу вартасьці замежнай валюты ў манэце і банкнотах, калі яна, паводле адзнак, паказаных у арт. 66 гэтых правіл, павінна ісьці ў агульна-саюзны бюджэт, ажыцьцяўляецца праз залічэньне гэтых каштоўнасьцяй на бягучы рахунак № 165 у замежным аддзеле праўленьня Дзяржбанку, а вартасьць замежнай валюты, якая павінна залічацца ў даход БССР, ставіцца на рахунак БССР у савецкай валюце НКФ СССР.

69. Грашовыя сумы, што ўваходзяць у склад канфіскаванай, адмерлай або безгаспадарнай маемасьці, а таксама сумы, атрыманыя ад рэалізацыі гэтай маемасьці (арт. 65, п. „в“), залічаюцца ў даход Саюзу ССР альбо БССР па адзнаках, паказанных у арт. 66 гэтых правіл, па разьдзелу XV § 1 арт. 41 даходнага каштарысу таго ведамства, на падставе пастановы якога была зроблена канфіскацыя маемасьці альбо прызнаньне яе адмерлай або безгаспадарнай.

Увага. Залічэньне паказанных у гэтым артыкуле паступленьняў ад органаў АДПУ робіцца па разьдз. XV § 1 арт. 41 каштарысу НКФ СССР.

## IX. Падлік канфіскаванай, адмерлай і безгаспадарнай маемасьці.

70. Для падліку канфіскаванай, адмерлай і безгаспадарнай маемасьці, якая пераходзіць ва ўласнасьць дзяржавы, і руху гэтай маемасьці служаць наступныя дакумэнты: акты перадачы маемасьці фінансавым органам, сьпісы яе, копіі актаў перадачы маемасьці іншым установам і прадпрыемствам, тарговыя лісты і інш.

Для падліку маемасьці, якая прынята фінансавым аддзелам і рэалізуецца ім, вядзецца асобная кніга, у якой зьмяшчаюцца наступ-

ныя весткі: **па дэбэту:** а) №№ па парадку, б) час прыём маемасьці в) на падставе якой пастановы, калі, ад каго маемасьць перайшла ва ўласнасьць дзяржавы, г) дзе яна знаходзіцца, д) назва маемасьці, е) колькасьць яе, ж) ацэнка першапачатковая і зьмененая, з) увагі; **па крэдыту:** а) №№ па парадку, б) месяц і дзень продажу маемасьці або перадачы яе ўстановам і прадпрыемствам, в) назва устаноў і прадпрыемстваў, якім перададзена маемасьць, г) сума, атрыманая ад продажу або пры перадачы, д) выдаткі па рэалізацыі, е) выплачаная запазычанасьць, ж) сума, ўнесеная ва ўстанову Дзяржбанку для залічэньня ў даход скарбу, з) увагі.

Падатковае Кіраўніцтва НКФ БССР: **Валіцкі. Пінчук.**

**Дадатак № 1.**

## Пералік прадметаў узброеньня і спэцыяльнага тэхнічнага забясьпечаньня РСЧА, якія павінны дармова перадавацца НКВМ і АДПУ у выпадку іх канфіскацыі альбо прызнаньня адмерлымі альбо безгаспадарнымі (арт. 7 правіл).

### I. Артылерыйская маемасьць.

1. Ручная агнястрэльная зброя вайсковых узораў, якая ідзе на ўзброеньне РСЧА і для забясьпечаньня грамадзкіх наркаматаў (вінтоўкі, карабіны, стрэльбы-кулямёты, рэвальверы, аўтаматычныя пісталеты і інш.).

2. Кулямёты як тыя, што знаходзяцца на ўзброеньні РСЧА, так і тыя, што не знаходзяцца на ўзброеньні РСЧА, але могуць быць скарыстаны.

3. Ручная халодная зброя вайсковых узораў.

4. Вайсковыя прыпасы да ручной агнястрэльнай зброі і кулямётаў.

5. Запасныя часткі да ручной зброі і кулямётаў, прылады да іх і спэцыяльны інструмант.

6. Ручныя і стрэльбавыя гранаты, мартыркі і прыцэлы для кіданьня ручных гранат.

7. Годная для скарыстаньня па свайму непасрэднаму прызначэньню або ў паказальных мэтах матарыяльная частка артылерыі, як цэльнымі сыстэмамі (гарматы, гаўбіцы, мінамёты, бомбамёты, набойныя скрыні, перадкі і інш), так і паасобныя часткі і фабрыкаты гэтых сыстэм, а таксама спэцыяльны інструмант і прылады да паказанай матарыяльнай часткі: прылады для страляньня і назіраньня.

8. Аптычныя прылады (вялікія і малыя стэрэатрубы вайсковых узораў з трыногамі, панарамы, бусолі з трыногамі, дальнамеры і прыцэльныя трубы).

9. Конская амуніцыя артылерыйскага ўзору з сёдламі.

10. Клуначныя сёдлы з клуначнымі прыладамі, горныя і кулямётныя, усіх узораў.

11. Баявыя кулямётныя павозкі (тачанкі) прынятага ў НКВМ узору.

12. Порах бяздымны ўсіх відаў (за выключэньнем паляўніцкага).

13. Знарады для артылерыйскіх гармат усіх калібраў і закончаныя апрацоўкай знарадныя корпусы.

14. Паасобныя элемэнты стрэлаў: узрывацелі, дыстанцыйныя трубкі ўзораў і марак, што знаходзяцца на ўзброеньні РСЧА, масянзовыя гільзы, капсульныя ўтулкі да іх, спэцыяльная шоўковая тканіна для вырабу знарадных картузоў і сырцовыя шоўкавыя ніткі для пашыўкі гэтых картузоў.

15. Драўняныя запаковачныя скрыні завадзкога і паркавага тыпу вайсковых узораў.

16. Усялякія пустастрэльныя ўтулкі да знарадаў усіх калібраў як драўняныя, спэцыяльна зробленыя для закрываньня вочкаў знарадаў (драўляныя пустастрэльныя ўтулкі), так і мэталёвыя.

17. Аўтабронятанкавая і трактарная маемасьць (бронямашыны, бронядрэзіны, вусенныя трактары, прынятыя на ўзброеньні РСЧА, прычапныя вазкі да іх, запасныя часткі, прылады і інструмант да танкаў, бронямашын, трактараў), вусенныя матыкі, а таксама панцыр для панцырных паяздоў, аўтапанцмашын і танкаў поўнымі і разрозьненымі камплектамі (напр., вежы, рубкі і інш.):

18. Прыцэлы для бомбакіданьня.

## II. Вайскова-тэхнічная маемасьць.

1. Аўтаматычныя ўзрывацелі вайсковага ўзору.
2. Замыкальнікі для вайсковых падрыўных работ.
3. Падрыўныя машыны вайсковага ўзору.
4. Шанцавы інструмант: лапаты, тапары вайсковага ўзору і кіркі-матыкі з клеймамі вайсковага ўзору.
5. Лыжы вайсковага ўзору з клеймамі вайсковага ведамства.
6. Вёсяльныя паўпантоны, маторныя пантоны і якарныя лодкі (пантоны).
7. Парусіна-коркавыя складаныя лодкі.
8. Прылады для падслухоўваньня (мінна-падземныя).
9. Краскамёты.
10. Прыёмна-перадавальныя радыёстанцыі палявога тыпу.
11. Радыёперадатчыкі палявога ўзору.
12. Радыёпрыймальнікі палявога ўзору.
13. Вымяральныя прылады і апараты да радыёперадатчыкаў і радыё-прыймальнікаў палявога тыпу.
14. Тэлеграфныя апараты палявога ўзору.
15. Тэлефонныя апараты з індуктарным і фанічным выклікам палявога ўзору.
16. Нумаратары і камутатары для тэлефонных, індуктарных і фанічных станцый палявога ўзору.
17. Кабель палявы тэлеграфны.
18. Кабель палявы тэлефонны.
19. Вайсковыя рухавыя галубіныя станцыі.
20. Люстэркі парабалічныя шкляныя і мэталёвыя для пражэктараў і сьветасыгнальных апаратаў.
21. Маніпулятары пражэктарныя і гукаловіцелі.
22. Камплектныя пражэктарныя станцыі ўсіх разьмераў і тыпаў.

## III. Вайскова-хэмічная маемасьць.

Прадметы, якія ўваходзяць у склад вайскова-хэмічнае, у тым ліку вайскова-мэтэаралёгічнае, маемасьці (процівагазы, балёны, агнямёты, фільтры).

### IV. Вайскова-гаспадарчая маемасьць.

1. Людзкое вайсковае снаражэньне.
2. Лягерная маемасьць.
3. Абоз вайсковага ўзору.
4. Сёдлы верхавыя і клуначныя вайсковага ўзору.
5. Збруя вайсковага ўзору.
6. Паходныя хлебапякарні і часткі іх.
7. Паасобныя часткі і прылады да абозу, збруі і конскага снараджэньня (вайсковага ўзору).

### V. Авіяцыйна-лётная маемасьць, якая знаходзіцца на ўзброеньні ў РСЧА.

1. Самалёты.
2. Маторы авіяцыйныя.
3. Абалонкі аэрастатаў.
4. Аўталябёдкі лётныя.
5. Сіліколявыя заводы.
6. Авіяцыйныя бомбатрымальнікі, бомбаскідальнікі, кулямётныя ўстаноўкі для стрэлу праз шруб, з фюзэляжу (кабіны і турэлі), прыцэлы кальцавыя, аптычныя і бортавыя, люстэркі для агляду назад.
7. Аэрафотаапараты (для паветранай здымкі).
8. Авіясэкстаны.
9. Запчасткі, прылады і спэцыяльна-авіяцыйны інструмант да маемасьці,пералічанай у п. п. 1—8.
10. Сьвечкі авіяцыйныя.

### VI. Вайскова-марская маемасьць.

1. Стэрэатрубы.
2. Праверачныя прылады Фролава для мін.
3. Рысункі замежных караблёў і іх мэханізмаў.
4. Пражэктары розных разьмераў судовага ўзору (з прыладамі).
5. Лямпы-мініятур для прыцэлаў.
6. Пляйстары баявыя і вучэбныя са ўсімі прыладамі.
7. Пляйстары парусінавыя з парусіны № 1 у адзін рад аканачаныя тросам з крэнгельсамі па бакох на кожныя 15 ф. даўжыні, з лапкаю пасярэдзіне, шырынёй 30 ф. і даўжынёй 50 ф.
8. Чамаданы шэрай парусіны № 6 вялікія з мэталёвымі люверсамі (марскога ўзору).
9. Чамаданы малыя парусінавага ўзору.
10. Чахлы на рубкі.
11. Чахлы на пляйстары, што захоўваюцца пад прыкрыцьцём.
12. Ліхтары баявыя.
13. Ліхтары баявыя Табулевіча (сьпіртавыя і электрычныя).
14. Ліхтары баявыя на паравыя, маторныя і грабныя шлюпкі.
15. Ліхтары Рац'ера.

Апроч таго, у НКВМ павінна перадавацца ўся маемасьць, якая мае апазнавальную адзнаку альбо кляймо НКВМ (або адзнаку б. Марскога ведамства).

Дадатак № 2.

## Пералік прадметаў паштова-тэлеграфнае, тэлефоннае і радыёмаемасьці, вылучаных з прыватнага звароту, якія трэба перадаваць НКП і Т у выпадку іх канфіскацыі, прызнаньня адмерлымі альбо безгаспадарнымі (арт. 41 правіл).

1. Франкіравальныя машыны.
2. Радыёапаратура, якая служыць для ажыцьцяўленьня хуткай і максымальнай перадачы, з усімі паасобнымі прыладамі і дэталямі,
3. Тэлеграфныя апараты ўсіх сыстэм, дэталі, паасобныя прылады і запасныя часткі да іх.

---

Дадатак № 3.

## Пералік прадметаў, якія ў выпадку іх канфіскацыі, прызнаньня адмерлымі альбо безгаспадарнымі трэба перадаваць у распараджэньне НКШ (арт. арт. 41 і 45 правіл).

### I. Па чыгуначным транспарце.

1. Паравозы і іх запасныя часткі.
2. Цеплавозы і іх запасныя часткі.
3. Вагоны чыгуначнага тыпу.
4. Цыстэрны чыгуначнага тыпу.
5. Пляцформы чыгуначнага тыпу.
6. Пралётныя фэрмы мастоў чыгуначнага тыпу.
7. Рэйкі і зашчапкі.
8. Стрэлачныя пераводы.
9. Паваротныя кругі.
10. Прылады сыгналізацыі і блакіроўкі чыгуначнага тыпу.

### II. Па водным транспарце.

1. Параціплаходы.
2. Непаравыя судны.
3. Судны спэцыяльнага прызначэньня (чарпаковыя, землясосныя і інш.).
4. Якары (адналапыя, двухлапыя, чатырохлапыя).
5. Кошкі (вагой ад 18 ф. да 1 п.).
6. Ланцугі карабельныя ад 1 2 ф. і вышэй.
7. Паравыя катлы судовага тыпу.
8. Паравыя машыны судовага тыпу.
9. Штурвалы.
10. Шпілі.
11. Брашпілі.
12. Запасныя часткі да параходаў і земляснарадаў.
13. Жалеза ліставое і корпуснае.
14. Рэперы чыгунныя.
15. Скура рэфулёрная.
16. Кругі ратавальныя.
17. Шлюпкі судовыя, завозкі (апроч перавозных скрыняў).
18. Кранцы пяньковыя і драўляныя.
19. Рупары медныя і жалезныя.
20. Рэфлектары да ліхтароў.
21. Ратавальныя лаўкі.
22. Літы жалезныя для такелажных работ.

23. Швайкі зьёмныя драўляныя.
24. Трапы жалезныя бартавыя (дзьве пары).
25. Ліхтары кажуховыя, шчоглавыя, махальныя і палубныя жалезныя.
26. Вертлюгі ланцужныя.
27. Цьвікі кованыя, баржавыя.
28. Дужкі лодачныя.

### III. Тэхнічныя дакуманты.

Матарыялы па дасьледваньні сухапутных і водных шляхоў і праекты іх палепшаньня (у друкаванай і рукапіснай форме).

---

**Дадатак № 4.**

## Пералік прадметаў спэцыяльнага прызначэньня, скарыстаньне якіх адносіцца да выключнага ведама аднаго якоганебудзь наркамату БССР (арт. 45 правіл).

### I. Па Вышэйшаму Савету Народнае Гаспадаркі.

1. Прадметы абсталяваньня ільна-прадзільных фабрык.
2. Ільняная пража.
3. Прадметы ільна-прадзільнае прамысловасьці:
а) паўкардныя машыны, б) брэкаркарды, в) мэтальныя машыны, г) фрэзерныя варштаты, д) такарныя варштаты па мэталю і для дрэва.
4. Прадметы абсталяваньня папяровых фабрык.
5. Цэлюлёза (бялёная і небялёная) і драўняніна.
6. Прадметы папяровай прамысловасьці: а) самачэрпкі, б) сушыльныя цыліндры, в) сушыльныя апараты.
7. Прадметы абсталяваньня скураных заводаў.
8. Машыны для вырабу скур і абутку, а таксама экстракты, апроч дубільнага, квэбрахавы, сумах, валанэя.
9. Прадметы абсталяваньня сярніковых фабрык.
10. Шчапальныя машыны, рубільныя, сушыльныя шафы, аўтаматы-шафы, каробкакалільныя, пакавальныя машыны.
11. Па піваварнай прамысловасьці: а) машыны для ўкупорваньня, б) машыны для мыцьця, в) піваварная смолка.
12. Па дражджавой прамысловасьці: а) сэпаратары, б) воздухадуўкі, в) днішчы, г) арматура, д) фільтрацыйныя чаны, е) чыстая культура.
13. Прадметы абсталяваньня піваварных і дражджавых заводаў
14. Х м е л ь.
15. Матачныя дрожджы.
16. Прадметы абсталяваньня цьвіковых і акулярных фабрык і мэталёвых заводаў.
17. Дрот (катанка).
18. Аптычнае шкло.
19. Прадметы абсталяваньня шкляных заводаў.
20. Розныя формы шклянай вытворчасьці.

### II. Па Народнаму Камісарыяту Юстыцыі.

1. Падручнікі і літаратура юрыдычнага характару.
2. Прадметы абсталяваньня саль пасяджэньняў народных судоў.

### III. Па Народнаму Камісарыяту Аховы Здароўя.

1. Мэдыкамэнты.
2. Перавязачны матарыял.
3. Хірургічныя інструманты.
4. Прадметы лябараторнага абсталяваньня па мэдыка-санітарнай часьці.
5. Прадметы санітарыі і гігіены.

### IV. Па Народнаму Камісарыяту Унутраных Спраў.

1. Электрычныя ручныя ліхтары.
2. Кішэнныя фатаграфічныя апараты.
3. Кішэнныя фатаграфічныя альбомы.
4. Рэчы для грымiраваньня (парыкі, грымiравальныя алоўкі і інш.).
5. Кнігі па крымінальных навуках.
6. Агнегасіцелі.
7. Пажарны інвэнтар.
8. Знадворныя дамавыя ліхтары.
9. Усякая зброя невайсковага ўзору.

### V. Па Народнаму Камісарыяту Асьветы.

1. Навучальныя дапаможнікі, плякаты, справачнікі, бібліятэчныя плякаты, антырэлігійная і іншая літаратура (за выключэньнем канфіскаваных навуковых падручнікаў, якія дармова перадаюцца НК Асьветы).
2. Прылады для фізычных габінэтаў і хэмічных лябараторый.
3. Хэмічныя рэактывы.
4. Ліхтары для дыапазытываў і дыапазытывы.
5. Інструманты сьлясарныя, сталярныя, такарныя і інш., варштаты і машыны для апрацоўкі мэталю, дрэва, швальныя машыны і ткацкія варштаты, патрэбныя для тэхнікумаў і прафэсыйна-тэхнічных школ.

### VI. Па Народнаму Камісарыяту Земляробства.

1. Гэадэзычныя і каморніцкія прылады.
2. Прылады (апараты) для агранамічных дасьледваньняў і барацьбы з шкоднікамі пасеваў.
3. Сельска-гаспадарчыя машыны і прылады.
4. Калекцыі насеньня, маючыя навуковае значэньне.
5. Садовы інвэнтар, мінэральныя ўгнаеньні.
6. Прылады для дасьледваньня малочных прадуктаў.
7. Спэцыяльныя вэтэрынарна-хірургічныя прадметы.

Падатковае Кіраўніцтва НКФ БССР: **Валіцкі.** **Пінчук.**

## Пастанова Калегіі Народнага Камісарыяту Земляробства БССР.

### Паст. 209. Пра вызначэньне раёнаў, у якіх уводзіцца у 1931 г. аграхэмічная служба.

У развіцьцё пастановы СНК БССР за 13/XI-1930 г. пра аграхэмічную службу, Калегія НК Земляробства БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць ў 1931 г. аграхэмічную службу ў наступных 50-ці раёнах, з якіх на 37 раённых аграхэмікаў ускласьці абслугоўваньне блізадлеглых раёнаў:

| Назва абслугоўваемых раёнаў | Месца знаходжаньня аграхэміка |
|---|---|
| 1. Дрысенскі і Асьвейскі . | Дрыса |
| 2. Боркавіцкі . . . | Боркавічы |
| 3. Ветрынскі . . . . | Ветрына |
| 4. Полацкі і Расонскі . . | Полацак |
| 5. Гарадоцкі і Межанскі . | Гарадок |
| 6. Віцебскі і Сіроцінскі . | Віцебск |
| 7. Ліозьнянскі і Высачанскі | Ліозна |
| 8. Бешанковіцкі і Сененскі | Бешанковічы |
| 9. Вушацкі і Вульскі . . | Вушачы |
| 10. Лепельскі і Чашніцкі . | Лепель |
| 11. Бягомльскі . . . | Бягомля |
| 12. Плешчаніцкі . . . | Плешчаніцы |
| 13. Лагойскі і Смалявіцкі . | Лагойск |
| 14. Заслаўскі і Астрашыцка-Гарадзецкі . . . | Заслаўль |
| 15. Барысаўскі і Крупскі . | Барысаў |
| 16. Бярэзінскі і Сьвіславіцкі | Бярэзіна |
| 17. Пухавіцкі і Чэрвенскі . | Пухавічы |
| 18. Асіпавіцкі і Стара-Дароскі | Асіповічы |
| 19. Слуцкі і Старобінскі . | Слуцак |
| 20. Узьдзенскі і Грэскі . . | Узда |
| 21. Копыльскі . . . . | Копыль |
| 22. Чырвона-Слабодзкі . . | Чырвоная Слабада |
| 23. Любаньскі . . . | Любань |
| 24. Бабруйскі і Клічаўскі . | Бабруйск |
| 25. Быхаўскі і Журавіцкі . | Быхаў |
| 26. Магілеўскі і Лупалаўскі | Магілеў |
| 27. Талачынскі і Коханаўскі | Талачын |
| 28. Аршанскі і Копыскі . | Ворша |
| 29. Дрыбінскі і Горацкі . | Дрыбін |
| 30. Мсьціслаўскі і Расьнянскі | Мсьціслаўль |
| 31. Клімавіцкі . . . . | Клімавічы |
| 32. Крычаўскі і Чэрыкаўскі | Крычаў |
| 33. Чавускі . . . . | Чавусы |
| 34. Прапойскі . . . . | Прапойск |
| 35. Краснапольскі . . . | Краснапольле |
| 36. Касьцюковіцкі і Хоцімскі | Касьцюковічы |
| 37. Кармянскі . . . . | Карма |
| 38. Рагачоўскі і Жлобінскі . | Рагачоў |
| 39. Чачэрскі . . . . | Чачэрск |
| 40. Уваравіцкі і Буда-Кашалёўскі . . . . | Уваравічы |
| 41. Веткаўскі . . . . | Ветка |
| 42. Гомельскі і Цэрахаўскі . | Гомель |
| 43. Рэчыцкі і Лоеўскі . . | Рэчыца |
| 44. Хойніцкі і Брагінскі . | Хойнікі |
| 45. Мазырскі і Азарыцкі . | Мазыр |
| 46. Пятрыкоўскі і Капаткевіцкі | Пятрыкоў |
| 47. Жыткавіцкі і Тураўскі . | Жыткавічы |
| 48. Каралінскі і Нараўлянскі | Каралін |
| 49. Дубровенскі і Лядлянскі | Дуброўна |
| 50. Койданаўскі і Самахвалавіцкі . . . . | Койданава |

2. Прапанаваць Пляніваму Сэктару пры праектаваньні фінансавых сродкаў на 1931 г. прадўглядзець па мясцовых раённых бюджэтах утрыманьне раённых аграхэмікаў і раз'ездныя сродкі. Прычым прадуглядзець поўнае забясьпечаньне сродкамі на раз'езды для тых раёнаў, у якіх на райаграхэміка ўскладаецца абслугоўваньне 2-х раёнаў, прадуглёдзіўшы па раённаму бюджэту па месцу сталага знаходжаньня аграхэміка фінансаваньне па ўстаноўленых нормах, а таксама і сутачныя.

3. У дадатак да пастановы Калегіі за 5 X-1930 году (пр. № 40, п. 401) аб структуры і формах арганізацыі аграхэмічнай службы, прапанаваць Сэктару Кадраў разам з Сэктарам Тэхкультур выканаць п. 4 па арганізацыі курсаў перападрыхтоўкі аграномаў на райаграхэмікаў, арганізаваць курсы і выпрацаваць праграму іх.

Народны Камісар Земляробства БССР **Рачыцкі.**

20 сьнежня 1930 г.
прат. № 51, п. 603.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР.

### Паст. 210. Пра парадак узбуджэньня хадайніцтваў аб уезьдзе у СССР.

Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР прапануе прыняць да кіраваньня ўстаноўлены Народным Камісарыятам Замежных Спраў СССР наступны парадак узбуджэньня хадайніцтваў аб уезьдзе ў СССР асобамі, якія пражываюць за граніцай:

1. Хадайніцтвы аб уезьдзе ў СССР павінны ўзбуджацца зацікаўленымі асобамі непасрэдна перад паўнамоцнымі прадстаўніцтвамі або консульствамі СССР за граніцай.

У тых выпадках, калі ў дзяржаве, у якой пражывае ўзбудзіўшая хадайніцтва аб выезьдзе асоба, няма паўнамоцнага прадстаўніцтва, хадайніцтва павінна быць узбуджана непасрэдна перад Народным Камісарыятам Замежных Спраў СССР у гор. Маскве.

2. Ніякія хадайніцтвы ад пражываючых у СССР грамадзян аб дазволе прыезду да іх з-за граніцы сваякоў, знаёмых або іншых асоб ні адмаддзеламі ні іншымі органамі не павінны прымацца, а грамадзянам гэтым неабходна растлумачыць, што хадайніцтвы аб уезьдзе ў СССР павінны ўзбуджацца у паказаным у п. 1 парадку тымі асобамі, якія жадаюць прыехаць у СССР.

3. Асобы, якія па прыезьдзе ў СССР будуць знаходзіцца на ўтрыманьні, напрыклад: бацькі або старыя сваякі, недарослыя, грамадзянкі СССР, выехаўшыя за граніцу як жонкі чужаземцаў сумесна з імі, а ў сучасны момант па розных акалічнасьцях (сьмерць мужа, развод і інш.) вымушаныя зьвярнуцца на бацькаўшчыну і г. д., павінны прадстаўляць у паўнамоцныя прадстаўніцтвы або консульствы СССР за граніцай сумесна з хадайніцтвам аб уезьдзе наступныя дакументы:

а) даведкі ад асоб, якія пражываюць у СССР, аб тым, што яны бяруць іх на сваё ўтрыманьне;

б) пасьведчаньні адпаведных органаў аб тым, што асоба, якая жадае ўзяць на ўтрыманьне пражываючых за граніцай сваякоў, уладае неабходнымі сродкамі.

Увага 1. Паказанымі пасьведчаньнямі могуць зьяўляцца:
а) пасьведчаньні з месца працы або службы аб разьмеры заработнай платы, якая імі атрымоўваецца;
б) даведкі праўленьняў калгасаў або сельсаветаў аб маемасным становішчы асобы, якая жадае ўзяць прыяжджаючую асобу на сваё ўтрыманьне;
в) даведка фінаргану аб плацяжу падаходнага падатку і г. д.

Увага 2. Подпіс на даведках аб утрыманьні павінна быць засьведчана Натарыяльнай канторай, а для асоб якія пражываюць у сельскіх мясцовасьцях,—сельскім саветам.

Даведкі аб утрыманьні і пасьведчаньні, пералічаныя ў арт. 3, перасылаюцца ўзяўшымі на ўтрыманьне непасрэдна жадаючым прыехаць у СССР асобам, якімі гэтыя дакумэнты прадстаўляюцца ў паўнамоцнае прадстаўніцтва або консульства СССР за граніцай пры хадайніцтвах аб уезьдзе ў СССР.

5. У тых выпадках, калі ў дакумэнтах, якія здаюцца ў адміністрацыйныя органы прыехаўшымі з-за граніцы грамадзянамі СССР, ёсьць адзнакі консульства СССР за граніцай аб выдачы ім зваротных дапамог, адмаддзелы павінны безадкладна паведаміць у адпаведны фінаддзел аб запазычанасьці гэтых асоб консульству СССР за граніцай, з паказаньнем прозьвішча, імя і імя па бацьку і адрасу.

6. Адмаддзелам прапануецца шырока інфармаваць насельніцтва аб паказаным вышэй парадку ўзбуджэньня хадайніцтваў аб уезьдзе у СССР.

7. З выданьнем гэтага абежніку касуецца абежнік НКУС за 25/V-1927 г. № 1128.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

25 сьнежня 1930 г.
№ 101.

## Загад па Вышэйшаму Савету Народнае Гаспадаркі і Народнаму Камісарыяту Гандлю БССР.

### Паст. 211. Пра парадак забясьпечаньня спэцвопраткай і здачы прадукцыі Белдзяржснабу.

У дадатак і зьмену загаду ВСНГ і Наркамгандлю БССР за 14/X г. г. за № 179/662 аб парадку забясьпечаньня спэцвопраткай устанаўляецца наступны парадак забясьпечаньня спэцвопраткай і здачы прадукцыі Белдзяржснабу:

1) Ускласьці на Белдзяржснаб забясьпечаньне спэцвопраткай усіх тых арганізацый, якія па п. 1 загаду № 179/662 забясьпечваліся Белкапсаюзам.

2) Белкапсаюз перадае Белдзяржснабу ўсю наяўнасьць спэцвопраткі (у тым ліку і спэцабутак), якая маецца ва ўсёй сыстэме капярацыі.

3) Усе крыніцы атрыманьня спэцвопраткі і спэцабутку, якія загадам № 179/662 былі перададзены Белкапсаюзу, перадаюцца цалкам Белдзяржснабу.

4) Белсампрамсаюз і БСІКА абавязваюцца ўсю выпрацоўваемую імі спэцвопратку як у асобным квартале, так і ў 1931 г., здаваць выключна Белдзяржснабу і на працягу пяці дзён заключыць паміж сабою даговоры.

5) Белшвэйаб'яднаньне абавязваецца ўстанавіць выпрацоўку швэйнай прадукцыі Белсампрамсаюза, БСІКА і сваёй у асартымэнце і колькасьці, адпавядаючых патрэбнасьці ў спэцвопратцы ўсіх сэктароў, якія снабжаюцца Белдзяржснабам, паводле зводных заявак апошняга.

6) Белсампрамсаюзу не пазьней 1 студзеня 1931 г. здаць Белдзяржснабу 12.000 ватных куртак.

7) Усім кіраўнікам установаў і прадпрыемстваў устанавіць сталы кантроль за правільным скарыстаньнем і выдачай спэцвопраткі ў

строгай адпаведнасьці з кал. дагаворамі і існуючым заканадаўствам, а таксама кантроль за неперавышэньнем устаноўленых норм запасаў.

Старшыня Вышэйшага Савету
Народнай Гаспадаркі БССР **Р. Грысевіч.**

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Абрамсон.**

15 сьнежня 1930 г.
№ 777/223.

## Пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР.

Узгоднена з Белжылсаюзам, Белкалгасбудам, НК Гандлю і НК Унутраных Спраў БССР.

### Паст. 212. Палажэньне аб асобах, пад ведамам якіх знаходзіцца тэхніка бясьпекі на будаўнічых работах.

1. Для стварэньня найбольш спрыяючых і бясьпечных умоў для выкананьня будаўнічых работ або складаных пабудоваў павінны быць вылучаны спэцыяльныя асобы, пад ведамам якіх знаходзіцца тэхніка бясьпекі.

2. Займаць паказаныя ў арт. 1 пасады могуць:

а) на буйных пабудовах з лікам рабочых больш 500 чал. у сярэднім за сэзон, а таксама на складаных пабудовых і на асабліва небясьпечных з меншым лікам рабочых—асобы з вышэйшай тэхнічнай адукацыяй і маючыя практычны стаж (інжынэр-тэхнік).

б) на іншых пабудовах—асобы з вышэйшай тэхнічнай адукацыяй, асобы з сярэдняй тэхнічай адукацыяй і асобы з дастатковым практычным стажам.

3. Асобы, пад ведамам якіх знаходзіцца тэхніка бясьпекі, павінны быць вызвалены ад усялякіх работ, не ўваходзячых у іх непасрэдныя абавязкі, пералічаныя ў арт. 8 гэтага палажэньня.

На іншых пабудовах абавязанасьці гэтых асоб павінны быць ускладзены па сумяшчальнасьці на галоўнага тэхнічнага кіраўніка (выканаўцу работы) або яго памочніка, занятага на данай пабудове.

4. Асобы, пад ведамам якіх знаходзіцца тэхніка бясьпекі, у дырэктыўных адносінах падпарадкаваны начальнікам работ. Назначэньне гэтых асоб робіцца начальнікам работ па ўзгадненьні з прадстаўнікамі арганізацый.

5. Для вядзеньня перапіскі, справаздачнасьці і статыстыкі, зьвязанай са справай аховы працы, асобы, пад ведамам якіх знаходзіцца тэхніка бясьпекі, карыстаюцца апаратам канторы пабудовы.

6. На пабудовах, паказаных у п. „а“ § 2, арганізуюцца бюро бясьпекі, у склад якіх уваходзяць усе выканаўцы работ, тэхнікі, дзесятнікі, брыгадзіры, кіруючыя работамі асобных груп рабочых на адведзеных ім вучастках пабудовы, арганізатары сацыяльна-бытавых сэктароў рабочкомаў і кіраўнікі вытворч. эканам. работы і загадчыкі пунктаў падачы мэд. дапамогі. Бюро зьяўляецца органам кансультацыйным, працуючым пад старшынствам асобы, пад ведамам якой знаходзіцца тэхніка бясьпекі.

У задачу Бюро ўваходзіць абгаварэньне пытаньняў і мерапрыемстваў, а таксама абгаварэньне і вызначэньне асыгнаваньняў сродкаў па тэхніцы бясьпекі, зьвязаных з будаўнічымі работамі.

7. На асоб, пад ведамам якіх знаходзіцца тэхніка бясьпекі, ўскладаецца кіраваньне і нагляд за пастаноўкай справы тэхнікі бясьпекі на ўсёй тэрыторыі пабудовы. Бягучы нагляд за бясьпечнымі ўмова-

мі выкананьня работ грабарных, цесьлярных, каменных, сталярных і інш. з пункту погляду папярэджваньня няшчасных выпадкаў, ускладаецца на адпаведных тэхнічных кіраўнікаў вучасткаў будаўнічых работ (выканаўцаў работ, тэхнікаў і інш. самастойных выканаўцаў работ).

8. У абавязанасьці асоб, пад ведамам якіх знаходзіцца тэхніка бясьпекі, уваходзіць:

а) выяўленьне небясьпечных і шкодных момантаў ва ўмовах выконваемых работ;

б) прыняцьце практычных мерапрыемстваў па адхіленьні выяўленых небясьпечнасьцяй і шкоднасьцяй;

в) нагляд за правядзеньнем у жыцьцё чынных абавязковых пастаноў НКП па тэхніцы бясьпекі ў частцы будаўнічых і мантажных работ;

г) нагляд за своечасовым выкананьнем патрабаваньняў заканадаўства аб папярэднім наглядзе;

д) удзел у распрацоўцы правіл па бясьпечнаму вядзеньню мантажных і будаўнічых работ для асобных прафэсій, а таксама абыходжаньне з мэханізмамі, прыладамі і г. д. і правіл унутранага парадку ў частцы тэхнікі бясьпекі і аховы працы;

е) кіраваньне падлікам траўматызмаў з разьмеркаваньнем няшчасных выпадкаў па ўстаноўленых формах справаздачнасьці;

ж) інструктаваньне ўсяго тэхнічнага пэрсаналу па пытаньнях небясьпечнасьці работы і патрэбных мер перасьцярогі пры выкананьні апошніх;

з) нагляд за своечасовым і належным інструктаваньнем і навучаньнем з боку тэхнічных кіраўнікоў прымаемых на работу рабочых правілам перасьцярогі і спосабам бясьпечнага выкананьня работ;

і) удзел у працы мясцовага сацыяльна-бытавога сэктару і вытворчых нарадах па пытаньнях тэхнікі бясьпекі;

к) распрацоўка пляну і каштарысаў на правядзеньне мерапрыемстваў па тэхніцы бясьпекі, як выцякаючых з характару работ, так і па прапановах органаў НКП;

л) нагляд за правільным і своечасовым выдаткаваньнем асыгнуемых сродкаў на мерапрыемствы па тэхніцы бясьпекі;

м) вывучэньне эфэктыўнасьці ажыцьцяўляемых мерапрыемстваў па тэхніцы бясьпекі;

н) удзел у абсьледваньнях мерапрыемстваў па тэхніцы бясьпекі;

о) арганізацыя прапаганды ідэй тэхнікі бясьпекі сярод рабочых пабудовы праз арганізацыю лекцый, гутарак і г. д.

9. У надзвычайных выпадках, калі абставіны работы такія, што пагражаюць небясьпечнасьці асобным рабочым ці групе рабочых, загадчык тэхнікі бясьпекі мае права прыпыніць работу асобных вучасткаў пабудовы з наступным паведамленьнем аб гэтым тэхнічнага выканаўца работ пабудовы і начальніка работ вышэйшых арганізацый.

10. Загадчык тэхнікі бясьпекі ўзбуджае перад тэхнічным выканаўцам работ пытаньне аб накладаньні на рабочых, паводле існуючых правіл унутранага парадку, спагнаньняў за парушэньне правіл і інструкцыі па тэхніцы бясьпекі.

11. Па займаемай пасадзе асобы, пад ведамам якіх знаходзіцца тэхніка бясьпекі, прыроўніваюцца да памочніка тэхнічнага выканаўцы работ пабудовы як у адносінах праў, так і ў адносінах аплаты працы і іншых ўмоў працы.

12. а) Асобы, пад ведамам якіх знаходзіцца тэхніка бясьпекі, зьяўляюцца адказнымі па рабоце ў межах гэтага палажэньня за невыкананьне імі ўскладзеных на іх абавязкаў (арт. 8) і за несвоечасовае скарыстаньне сродкаў, вызначаных у іх распараджэньне, на мерапрыемствы па тэхніцы бясьпекі.

б) За няшчасныя выпадкі, здарыўшыяся ў час выкананьня работ, прыцягваюцца да адказнасьці тыя непасрэдныя кіраўнікі гэтых работ, якія сваімі распараджэньнямі або дзеяньнямі на месцы выконваемых работ ці абслугоўваньня маглі-б папярэдзіць няшчасны выпадак.

в) Тэхнічны выканаўца работ адказвае за невыкананьне мерапрыемстваў па тэхніцы бясьпекі, а таксама за няшчасныя выпадкі, здарыўшыяся па віне адміністрацыі пабудовы, у тым выпадку, калі ён сваімі распараджэньнямі або дзеяньнямі ня даў магчымасьці выконваць асобам, паказаным у арт. 9 гэтага палажэньня, ускладзеныя на іх існуючымі паказаньнямі і гэтым палажэньнем абавязкі па выкананьню мерапрыемстваў у адносінах аховы бясьпекі працы.

13. Пэрыядычную справаздачнасьць і інфармацыйныя зьвесткі асоба, пад ведамам якой знаходзіцца тэхніка бясьпекі, падае праз начальніка работ у адпаведныя вышэйшыя арганізацыі.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Д. Захарава.**

Ст. Інспэктар сэзонных галін народнай гаспадаркі НКП БССР **З. Іоффэ.**

7 чэрвеня 1930 г.
№ 39.

**Паст. 213. Палажэньне аб асобах, пад ведамам якіх зняходзіцца тэхніка бясьпекі на распрацоўках торпу.**

1. Для стварэньня найбольш спрыяючых і бясьпечных умоў для выкананьня торповых работ павінны быць вылучаны спэцыяльныя асобы, пад ведамам якіх знаходзіцца тэхніка бясьпекі.

2. Займаць паказаную ў арт. 1 пасаду могуць асобы:

а) на тарпараспрацоўках з лікам рабочых больш 500 чал. у сярэднім у сэзон, а таксама на торпазаводах складаных і асабліва небясьпечных з меншым лікам рабочых—асобы з вышэйшай тэхнічнай адукацыяй і маючыя практычны стаж (інжынэр, тэхнік);

б) на іншых торпазаводах—асобы з вышэйшай тэхнічнай адукацыяй, асобы з сярэдняй тэхн. адукацыяй і асобы з дастатковым практычным стажам.

3. Асобы, пад ведамам якіх знаходзіцца тэхніка бясьпекі, павінны быць вызвалены ад усялякіх работ, не ўваходзячых у іх непасрэдныя абавязкі, пералічаныя ў арт. 8 гэтага палажэньня.

На іншых торпараспрацоўках абавязнасьці асоб, ведаючых тэхнікай бясьпекі, павінны быць ускладзены па сумяшчальнасьці на галоўнага тэхнічнага кіраўніка (выканаўца работ) або яго памочніка, занятага на данай працы.

4. Асобы, пад ведамам якіх знаходзіцца тэхніка бясьпекі, ў дырэктыўных адносінах падпарадкаваны загадчыкам торпараспрацовак. Назначэньне гэтых асоб, робіцца заг. торпараспрацовак, па ўзгадненьні з прадстаўніком Белторпаб'яднаньня.

5. Для вядзеньня неабходнай перапіскі, справаздачнасьці і статыстыкі, зьвязанай са справай аховы працы, асобы, пад ведамам якіх

знаходзіцца тэхніка бясьпекі, карыстаюцца апаратам канторы торпараспрацовак.

6. На торпараспрацоўках, паказаных у п. „а“ § 2, арганізуюцца „Бюро бясьпекі“, у склад якіх уваходзяць усе выканаўцы работ, прарабы, тэхнікі, дзесятнікі, брыгадзіры, кіруючыя работамі асобных груп рабочых на адпаведных вучастках торпараспрацовак, арганізатары сацыяльна-бытавых сэктароў, рабачкомаў, кіраўнікі вытворча-эканам. работ і заг. пунктамі мэддапамогі. Бюро зьяўляецца органам кансультацыйным, працуючым пад старшынствам асобы, пад ведамам якой знаходзіцца тэхніка бясьпекі.

У задачу бюро ўваходзіць абгаварэньне пытаньняў і мерапрыемстваў, а таксама абгаварэньне і вызначэньне асыгнаваньняў і сродкаў па тэхніцы бясьпекі, зьвязаных з торпараспрацоўкамі.

7. На асоб, пад ведамам якіх знаходзіцца тэхніка бясьпекі, ускладаецца кіраваньне і нагляд за пастаноўкай справы тэхнікі бясьпекі на ўсёй тэрыторыі торпараспрацовак. Бягучы нагляд за бясьпечнымі ўмовамі выкананьня работ грабарных, варочаньня, сушкі, копкі, перасоўваньня машын, працай катлавых машын і інш. з пункту погляду папярэджваньня няшчасных выпадкаў—ускладаецца на адпаведных тэхнічных кіраўнікаў вучасткаў торпараспрацовак (выканаўцаў работ, тэхнікаў і іншых самастойных выканаўцаў работ).

8. У абавязкі асоб, пад ведамам якіх знаходзіцца тэхніка бясьпекі, уваходзіць:

а) выяўленьне небясьпечных і шкодных момантаў ва ўмовах выконваемых работ;

б) ужыцьцё практычных мерапрыемстваў па адхіленьні выяўленых небясьпечнасьцяй і шкоднасьцяй;

в) нагляд за правядзеньнем у жыцьцё чынных абавязковых пастаноў НКП па тэхніцы бясьпекі ў частцы торпараспрацовак;

г) нагляд за сваечасовым выкананьнем патрабаваньняў заканадаўства аб папярэднім наглядзе;

д) удзел у распрацоўцы правіл па бясьпечнаму вядзеньню работ асобных прафэсій, а таксама па абыходжаньню з мэханізмамі і прыладамі і г. д. і правіл унутранага парадку ў частцы тэхнікі бясьпекі і аховы працы;

е) кіраўніцтва падлікам траўматызмаў з разьмеркаваньнем даных няшчасных выпадкаў па ўстаноўленых формах справаздачнасьці;

ж) інструктаваньне ўсяго тэхнічнага пэрсаналу па пытаньнях небясьпекі работ і неабходных мерах перасьцярогі пры правядзеньні апошніх;

з) нагляд за сваечасным і належным інструктаваньнем і навучаньнем з боку тэхнічных кіраўнікоў прымаемых на работу рабочых правілам перасьцярогі і спосабам бясьпечнага выкананьня работ;

і) удзел у работах мясцовага і нацыяльна-бытавога сэктару і вытворчых нарад па пытаньнях тэхнікі бясьпекі;

к) распрацоўка плянаў і каштарысаў на правядзеньне мерапрыемстваў па тэхніцы бясьпекі, як выцякаючых з характару работ, так і прадпісаньняў органаў НКП;

л) нагляд за правільным і сваечасным выдаткаваньнем асыгнуемых сродкаў на мерапрыемствы па тэхніцы бясьпекі;

м) вывучэньне эфэктыўнасьці ажыцьцяўляемых мерапрыемстваў па тэхніцы бясьпекі;

н) удзел у абсьледваньнях мерапрыемстваў па тэхніцы бясьпекі;

о) арганізацыя прапаганды ідэй тэхнікі бясьпекі сярод рабочых торпараспрацовак праз арганізацыю лекцый, гутарак і г. д.

9. У надзвычайных выпадках, калі абставіны работы такія, што пагражаюць небясьпекай асобным рабочым, або групе рабочых, загадчык тэхнікі бясьпекі мае права прыпыніць работу асобных вучасткаў торпараспрацовак з наступным давядзеньнем да ведама аб гэтым тэхнічнага выканаўцы работ торпараспрацовак і загадчыка торпараспрацовак і баз торпааб'яднаньня.

10. Загадчык тэхнікі бясьпекі ўзбуджае перад тэхнічным выканаўцам работ пытаньне аб накладаньні на рабочых, паводле існуючых правіл унутранага парадку, спагнаньняў за парушэньне правіл і інструкцыі па тэхніцы бясьпекі.

11. Па займаемай пасадзе асобы, пад ведамам якіх знаходзіцца тэхніка бясьпекі, прыроўніваюцца да памочніка тэхнічнага выканаўцы работ торпараспрацовак як у адносінах праў, так і ў адносінах аплаты працы і іншых умоў працы.

12. а) Асобы, пад ведамам якіх знаходзіцца тэхніка бясьпекі, зьяўляюцца адказнымі па рабоце, у межах гэтага палажэньня, за невыкананьне імі ўскладзеных па іх абавязкаў (арт. 8), або за несваечасовае скарыстаньне сродкаў, прадстаўленых у іх распараджэньне на мерапрыемствы па тэхніцы бясьпекі.

б) За няшчасныя выпадкі, здарыўшыяся ў час выкананьня работ, прыцягваюцца да адказнасьці тыя непасрэдныя кіраўнікі даных работ, якія сваімі распараджэньнямі або дзеяньнямі на месцы выкананьня работ або абслугоўваньня, маглі-б папярэдзіць няшчасны выпадак.

в) Тэхнічны выканаўца работ адказвае за невыкананьне мерапрыемстваў па тэхніцы бясьпекі, а таксама за няшчасныя выпадкі, здарыўшыяся па віне адміністрацыі торпараспрацовак у тым выпадку, калі ён сваімі распараджэньнямі або дзеяньнямі не даў магчымасьці выконваць асобам, паказаным у арт. 8 гэтага палажэньня, ускладзеныя на іх існуючымі паказаньнямі і гэтым палажэньнем абавязкі па выкананьню мерапрыемстваў у адносінах аховы бясьпекі працы.

13. Пэрыядычную справаздачнасьць, інфармацыйныя зьвесткі асоба, пад ведамам якой знаходзіцца тэхніка бясьпекі, падае праз загадчыка торпараспрацовак у Белторпаб'яднаньне.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Д. Захарава.**

Ст. Інспэктар па Сэз. Галінах народнае гаспадаркі НКП БССР **З. Іоффэ.**

Узгоднена: Кіраўнік Торптрэсту **Калінін.**

6 ліпеня 1930 г.
№ 41.

**Паст. 214. Пра абвяшчэньне пастановы НК Працы СССР за 14/XII 1930 г. № 365 пра зьмену правіл пра чарговыя і дадатковыя водпускі.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе абвясьціць да кіраваньня наступную пастанову НК Працы СССР за 14/XII-1930 г. № 365—„Пра зьмену правіл пра чарговыя і дадатковыяв одпускі"

„ПАСТАНОВА НК ПРАЦЫ СССР ЗА 14/XII-1930 г. № 365 ПРА ЗЬМЕНУ ПРАВІЛ ПРА ЧАРГОВЫЯ І ДАДАТКОВЫЯ ВОДПУСКІ.

Лічачы патрэбным рабіць утрыманьні за неадпрацаваныя дні водпуску ва ўсіх выпадках звальненьня за парушэньне працоўнай дысцыпліны і звальненьня па ўласнаму жаданьню (хаця-б і са згоды наймальніка) НК Працы СССР пастанаўляе:

Арт. арт. 2 і 3 правіл аб чарговых і дадатковых водпусках, зацьверджаных НК Працы СССР 30/IV-1930 г. за № 169 („Изв. НКТ" 1930 г. № 13) запісаць у наступнай рэдакцыі:

„2. Магчымы выпадкі, калі працаўнік звальняецца да зыходу таго рабочага году, у лік якога ён ужо атрымаў водпуск. У такіх выпадках пры разьліку наймальнік мае права з заработнай платы зрабіць утрыманьне за неадпрацаваныя дні водпуску.

Утрыманьне не дазваляецца, калі працаўнік звальняецца з прычыны: а) ліквідацыі прадпрыёмства або ўстановы або паасобных яго частак, скарачэньня штатаў або работ, а таксама рэарганізацыі ці часовага прыпыненьня работ; б) паступленьня на сапраўдную ваенную службу; в) пасылкі ва ўстаноўленым парадку у ВНУ, тэхнікум, на рабфак, на падрыхтоўчае аддзяленьне пры ВНУ альбо на курсы па падрыхтоўцы у ВНУ або на рабфак; г) перакідваньня на іншую работу па прапанове органа працы або камісіі, якая пры ім знаходзіцца, а таксама партыйнае, камсамольскае або прафэсійнае арганізацыі; д) высьвятліўшайся нягоднасьці да работы.

Калі наймальнік, маючы права на ўтрыманьне, фактычна пры разьліку ня меў магчымасьці яго зрабіць зусім або часткова (напр. з прычыны недастатковасьці сум, якія прылічваюцца пры разьліку)—дык далейшае спагнаньне (праз суд) не праводзіцца.

Увесь гэты артыкул ужываецца незалежна ад таго, ці скарыстаны водпуск пасьля $5^1/_2$ мес. работы або да гэтага тэрміну—авансам (арт. 12).

П р ы к л а д. Работнік паступіў 15 студзеня 1931 г. Ен атрымаў з 15-га ліпеня поўны водпуск, а 5-га жніўня 1931 г. зволіўся па ўласнаму жаданьню. Наймальнік мае права утрымаць з яго заработную плату за 5 дзён, бо работнік атрымаў 12 дзён водпуску за 12 мес. работы і з іх не дапрацаваў 5 мес.

3. Калі працаўнік зволіўся да зыходу таго рабочага году, у лік якога ён ужо атрымаў водпуск або поўную кампэнсацыю, дык у новага наймальніка $5^1/_2$ месячны тэрмін работы, якая дае права на водпуск, падлічваецца так:

а) калі пры звальненьні было зроблена ўтрыманьне за ўсе неадпрацаваныя дні водпуску, дык $5^1/_2$-месячны тэрмін падлічваецца з дня паступленьня да новага наймальніка;

б) калі пры звальненьні наймальнік, маючы права на ўтрыманьне, фактычна не зрабіў яго зусім або часткова, дык $5^1/_2$-месячны тэрмін пачынаецца, калі працаўнік прапрацуе ў новага наймальніка па аднаму месяцу за кожны неадпрацаваны дзень водпуску, за які заработная плата засталася ня ўтрыманай (а пры 18-ці 24-дзённым водпуску ў ранейшага наймальніка—па аднаму месяцу за кожныя $1^1/_2$ або 2 дні);

в) калі пры звальненьні наймальнік ня меў права на ўтрыманьне, дык $5^1/_2$-месячны водпуск пачынаецца пасьля зыходу таго рабочага году, за які водпуск або поўная кампэнсацыя былі атрыманы у ранейшага наймальніка; у гэтым выпадку ў гадовы тэрмін залічваецца таксама і час перапынку ў рабоце пасьля звальненьня, а таксама час знаходжаньня на работах, якія не даюць права на водпуск (часовых, сэзонных і да т. п.).

П р ы к л а д 1. Да п. „б": наймальнік, звальняючы працаўніка 15 жніўня 1931 г., меў права ўтрымаць з яго зарплату за 5 неадпрацаваных дзён водпуску, але фактычна ўтрымаў яе тольк

за 2 дні (бо працаўнік іншыя дні прахварэў). З 1-га верасьня 1931 г. працаўнік паступіў да новага наймальніка. $5^1/_2$-месячны тэрмін на новы водпуск пачынаецца у яго толькі з 1-га сьнежня 1931 г. і зыходзіць 5-га мая 1931 г.

Прыклад 2. Да п. „в“: наймальнік 1 кастр. 1931 г. па скарачэньню штатаў зволіў працаўніка, які праслужыў у яго з 1-га сакавіка 1931 г. і ужо скарыстаў свой водпуск. 15-га кастрычніка 1931 г. працаўнік паступіў да новага наймальніка. $5^1/_2$-месячны тэрмін на новы водпуск пачынаецца у яго толькі з 1-га сакавіка 1932 г. і зыходзіць 15-га жніўня 1932 г.

II.

У сувязі з гэтым унесьці у правілы аб чарговых і дадатковых водпусках наступныя зьмены:

1. Апошнюю частку арт. 5 запісаць так: „Пры дачы чарговых водпускаў адпаведна ўжываюцца арт. арт. 1, 2, 3“.

2. У 2-й частцы арт. 6 дабавіць словы: „Калі пры звальненьні працаўніка наймальнік мае права на ўтрыманьне з заработнай платы за неадпрацаваныя дні водпуску (арт. 2), дык у дакумантах працаўніка дабаўляецца адзнака:„ утрыманьне за неадпрацаваныя дні водпуску зроблена поўнасьцю“ або „асталася няўтрыманай заработная плата за столькі-та дзён водпуску“.

3. У арт. 12 выключыць 2-ю частку і прыклад“.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Саламонаў**.

24 сьнежня 1930 г.
№ 67

**Паст. 215. Пра зьмену пастановы НК Працы БССР за 27/Х-1930 г. „Пра ўніфікацыю аплаты сялянскай цягавай сілы“.**

1. НК Працы БССР пастанаўлае: замест расцэнак на вывозку каменьня, устаноўленых НКП БССР 27/Х г. г. („Сав. Беларусь“ за 7/ХІ-1930 г.) устанавіць наступныя расцэнкі на вывазку каменьня:

| Адлегласьць у кілёмэтрах | Цана за 100 кгр. у кап. | Цана за куб. мэтр. | УВАГА |
|---|---|---|---|
| 2 | 17,6 | 3—19 | Ад 16 кілёмэтраў і вышэй дадаецца па 15 кап. на кожны кілёмэтр-кубамэтр. |
| 4 | 22,0 | 3—96 | |
| 6 | 28,7 | 5—17 | |
| 8 | 39,1 | 7—04 | |
| 10 | 50,1 | 9—02 | |
| 12 | 58,6 | 10—56 | |
| 14 | 69,0 | 12—76 | |
| 16 | 87,5 | 15—73 | |

2. Усе выдадзеныя раней расцэнкі на перавозку каменьня акрвыканкомамі на мясцох касуюцца.

3. Усім гаспадарчым арганізацыям прапануецца правесьці гэту пастанову ў жыцьцё з дня выданьня, г. зн. з 14-га сьнежня г./г. Ад-

казнасьць за правядзеньне ў жыцьцё ўскладаецца на кіраўнікоў трэстаў і аб'яднаньняў і на кіраўнікоў работ.

4. Гэтыя расцэнкі ўстанаўляюцца на санную дарагу. Пры калёснай дарозе да гэтых расцэнак дадаецца яшчэ 15 проц.

5. На гарадзкіх і раённых інспэктароў працы ўскладаецца кантроль за ўжываньнем гэтае пастановы.

6. За парушэньне гэтай пастановы гаспадарчымі арганізацыямі, апошнія прыцягваюцца да судовай адказнасьці.

Народны Камісар Працы БССР **М. Гнілякевіч.**

Ст. Інспэктар сэзонных галін
народнай гаспадаркі НКП БССР **З. Іоффэ.**

14 сьнежня 1930 г.
№ 82.




Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

Друкарня Кір. Спраў СНК і Эканомнарады БССР З. № 24—4700 экз. Галоўлітбел № 1572.